# ПАГОНЯ

Чацвер
18 сакавіка 1999 г.
№ 19 (396)
Кошт 15.000 руб.


## На паперы ізноў гладка

**Сесія Гарадзенскага гарсавета дэпутатаў 12 сакавіка зацвердзіла бюджэт і прагноз сацыяльна-эканамічнага развіцця горада на 1999 год.**

Гарадскі бюджэт складзе 5 трлн. 541 млрд. 416 млн. рублёў. Каля паловы гэтых сродкаў займаюць выдаткі на адукацыю і ўтрыманне дзіцячых дашкольных устаноў. Трэцяя частка бюджэту пойдзе на фінансаванне сферы аховы здароўя, астатняе на патрэбы жыллёва-камунальнай гаспадаркі, датацыі насельніцтву і ўтрыманне жыллёвага фонду. Аб'ём вытворчасці прамысловай прадукцыі павінен скласці 104,3 працэнта і дасягнуць 29 трлн. 878,4 млрд. рублёў. Харчовых тавараў будзе выраблена на 2 трлн. 958 млрд. рублёў. Рост тавараабаротаў складзе 106 працэнтаў, а паслуг — 105 працэнтаў.

Плануецца не дапусціць беспрацоўя, якое, згодна з прагнозам, не перавысіць 2,5 працэнта.

**Ася Куніцкая**

## Гродна будзе рэабілітаваны?

**Цяпер, пры падтрымцы аддзела па культурнай спадчыне Савета Еўропы распрацоўваецца пілотны праект па аднаўленні і рэабілітацыі гістарычнага цэнтра горада Гродна. Аб гэтым паведаміў старшыня Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Дзмітрый Бубноўскі.**

Паводле ягоных словаў, рэалізацыя дадзенага праекту дазволіць захаваць адзін з найбольш старажытных помнікаў нацыянальнай архітэктуры — Барысаглебскую (Каложскую) царкву XII стагоддзя. Як вядома, гэтаму ўнікальнаму збудаванню, якое часткова захавалася, пагражае пастаянна ўзрастаючая небяспека разбурэння, паколькі высокі правы бераг ракі Нёман, на якім збудавана царква, паступова падмываецца. Для прадухілення магчымай катастрофы мяркуецца, у першую чаргу, умацаваць пакрыху спаўзаючы ў Нёман схіл.

Праект таксама прадугледжвае рэстаўрацыю, выкарыстанне і музеефікацыю Старога замку — комплексу абарончых умацаванняў, культавых і грамадзянскіх будынкаў XI-XIX стагоддзяў. У выніку ажыццяўлення праекту з'явіцца магчымасць экспанавання тых прадметаў матэрыяльнай культуры жыхароў старажытнай Гародні, якія пакуль схаваныя ў магутным археалагічным пласце, падкрэсліў Д.Бубноўскі.

Паводле ягоных словаў, праект прадугледжвае вялікую працу па гідраізаляцыі, забеспячэнню тэхнічнай захаванасці і аднаўленню многіх аб'ектаў гістарычнага цэнтра Гродна, які адыграў значную ролю ў мінуўшчыне беларускага народа.

**Марат Гаравы**

## «Інтэграсты» імкнуцца на Захад

**Чарговая сесія Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі пройдзе 10—11 траўня ў Гродне. Пра гэта журналістам паведаміў старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі Павел Шыпук.**

Асноўныя пытанні, якія парламентарыі маюць намер абмеркаваць у Гродне, паводле ягоных словаў, будуць тычыцца ходу рэалізацыі апошніх беларуска-кітайскіх дамоўленасцяў і дакументаў, падпісаных прэзідэнтамі дзвюх краін 25 снежня 1998 года ў Маскве. П.Шыпук таксама паведаміў, што для ўдзелу ў сесіі будзе абавязкова запрошана дэлегацыя парламента Саюзнай Рэспублікі Югаславія, які атрымаў, як вядома, статус пастаяннага назіральніка пры Парламенцкім сходзе Саюза Беларусі і Расіі.

«Для іх важная наша падтрымка, наша палітычнае меркаванне,» — падкрэсліў кіраўнік верхняй палаты Нацыянальнага сходу.

**Вячаслаў Будкевіч**




**19 і 20 сакавіка** - пераменная воблачнасць, невялікія ападкі. Вецер паўднёва-ўсходні, 7-9 м/с. Тэмпература паветра ўначы 0...-2, удзень +1...+3.

## Халодная вясна 99-га

**За апошнія дні тэмпература паветра ў жылых кватэрах гарадзенцаў знізілася да 16-18 градусаў. Батарэі паравога ацяплення ледзь цепляцца.**

Распараджэнне Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі і Упраўлення ЖКГ Гарадзенскага аблвыканкама ад 5 сакавіка 1999 года супала з сакавіцкімі замаразкамі. На фоне халоднага надвор'я жыхары пачалі ляскаць зубамі і ў сваіх кватэрах. Прычынай гэтага стаў загад «забяспечыць зніжэнне спажывання прыроднага газу не менш як на 25 працэнтаў супраць...ліміту», падпісаны кіраўніком ЖКГ аблвыканкама Станіславам Рысікам. Дакумент разасланы кіраўнікам кацельных, цепласетак ды іншых прадпрыемстваў. Такі рэжым жорсткай эканоміі спрычынены, зыходзячы з дакумента, абмежаваннямі пастаўкі ў рэспубліку прыроднага газу, запазычанасцямі аплаты за цяпло і павышэннем тэмпературы паветра.

Ужо на мінулым тыдні грамадзяне адчулі на сабе гэтае «пацяпленне». У кватэрах стала халадно, тэмпература знізілася да 16 градусаў, што недапушчальна. Нават калі не праветрываць памяшканне (што шкодна для здароўя), даводзіцца апранаць дома світары ці ваўняныя касцюмы, бо інакш - змерзнеш.

Гэта - чарговы прыклад бессаромнага самавольства ўладаў.

> В связи с ограничением поставки в республику природного газа, неудовлетворительной оплатой за природный газ, наступившим повышением температуры наружного воздуха обеспечить снижение потребления природного газа не менее чем на 25 процентов против установленного лимита.
>
> При температуре наружного воздуха от + 8°С и выше эксплуатацию всех котельных перевести в режим "протапливания", т.е. при отсутствии потребления топлива обеспечивать циркуляцию теплоносителя. В ночные часы обеспечить снижение температуры подающего теплоносителя не менее чем на 10°С против установленного по графику с обеспечением нормальной циркуляции теплоносителя.
>
> Начиная с 6.03.1999 г. ежесуточно с 7.00 до 23.00 часов передавать диспетчеру в управление потребление каждого вида топлива в целом по предприятию по телефону 47-09-46.
>
> За невыполнение настоящего распоряжения несет персональную ответственность руководитель объединения, предприятия.
>
> Начальник производственного управления С.А.Рысик

Па загаду зверху парушаюцца правы грамадзянаў. Кацельныя ледзь падтрымліваюць «жывы дух» у батарэях. Паводле неафіцыйных дадзеных, яны наогул не грэюць цепланосьбіт з першай гадзіны ночы да 4-х гадзін раніцы, калі ўсе спяць і не здагадваюцца пра падман.

Мы звярнуліся з пытаннямі - ці знізіцца плата за цяпло ў сувязі з эканоміяй прыроднага газу і наогул, чаму так халадно ў кватэрах, - да намесніка начальніка ўпраўлення ЖКГ аблвыканкама Аляксандра Міхалёва. Той тонам, не дапускаючым пярэчанняў, заявіў: «Як плацілі, так і будзеце плаціць... Што, холадна? Батарэі зусім халодныя? А Вы што, ноччу ўстаяце, мацаеце батарэі, што Вам халадно?..» Не абавязкова мацаць халодныя батарэі, каб змерзнуць.

У ЖЭС N12 на адчайны крык замярзаючага кватэранаймальніка «Ці ёсць мяжа зніжэння тэмпературы ў дамах?!» - адказалі, што мяжы няма. Зніжаць могуць, напэўна, пакуль вада ў чайніку не замерзне.

Адзінае выйсце парэкамендавалі ў Таварыстве абароны правоў спажыўцоў. Калі нават пры заклееных вокнах і ўцепленых дзвярах у вашай кватэры ртутны слупок тэрмометра апусціўся ніжэй за 18 градусаў, - смела пішыце заяву ад жыльцоў дома са скаргай на ЖЭС ці на прадпрыемства ацяпляльнай сеткі. Вам павінны зрабіць пераразлік за ацяпленне і «падагрэць» батарэі.

**Алена Сіневіч**

## Подпісы - за Зянона Пазьняка

**Каля 250 актывістаў БНФ «Адраджэнне» вядуць у Гродне збор подпісаў за вылучэнне Зянона Пазьняка кандыдатам у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь. Выбары, аб'яўленыя Вярхоўным Саветам 13-га склікання, прызначаны паводле Канстытуцыі 1994 года на 16 траўня гэтага года.**

Старшыня гарадской арганізацыі БНФ «Адраджэнне» кандыдат медыцынскіх навук Сяргей Мальчык удакладняе, што работай з грамадзянамі займаюцца таксама многія прыхільнікі нацыянальнай ідэі - ад студэнтаў да пенсіянераў, прадстаўнікі розных сацыяльных груп. Іх яднае боль за гаротны стан краіны.

У сваёй бальшыні насельніцтва ведае пра выбары. Ахвотна ставяць подпісы пад дакументамі студэнты і навучэнцы. Людзі больш сталага веку распытваюць пра Зянона Пазьняка, маўляў, чаму з'ехаў, выказваюць сумненні ў магчымасці правядзення прэзідэнцкіх выбараў без удзелу Аляксандра Лукашэнкі. Іншыя не супраць аддаць свой голас, але не за вылучэнца Народнага Фронту. Адрасы такіх асобаў перадаюцца сябрам ініцыятыўных груп, якія вядуць збор подпісаў за кандыдатуру былога прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра. Заадно выяўляюцца актывісты, якія маглі б увайсці ў склад участковых выбарчых камісій.

- Гарадзеншчына здавён мае дэмакратычныя традыцыі. Менавіта тут мы мяркуем сабраць адну траціну ад агульнай колькасці галасоў, неабходных для вылучэння Зянона Станіслававіча. Практыка сведчыць, што гэта рэальна зрабіць да 26 сакавіка - апошняга дня збору подпісаў. Калі, вядома, не будуць чыніцца ўсялякія перашкоды.

Сяргей Мальчык паведаміў, што заўважана канцэнтрацыя міліцыянтаў каля аб'ектаў, куды павінны завітаць сябры ініцыятыўных груп. Іншы раз варожасць праяўляюць службовыя асобы інтэрнатаў. Былі спробы з боку праваахоўных органаў затрымаць актывістаў БНФ «Адраджэнне» і прыхільнікаў гэтага дэмакратычнага руху. Павялічана колькасць патрулёў у вячэрні час. Аднак збор подпісаў працягваецца.

**Тыя, хто жадае прыспешыць гэты працэс, могуць самастойна паставіць свой подпіс за кандыдатуру Пазьняка па адрасу, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Вас чакаюць пасля 14. гадзін штодня.**

**Антон Лабовіч**

## Гарвыканкам заклікае займацца даносамі

**Дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі ў Гродне распаўсюдзілі афіцыйнае паведамленне гарадскіх уладаў. Маўляў, у выканаўчы камітэт паступаюць тэлефонныя званкі ад грамадзян, абураных дзеяннямі невядомых асобаў, якія збіраюць подпісы за вылучэнне кандыдатаў у прэзідэнты Беларусі.**

«Вертыкаль» аператыўна адгукнулася на чарговае «патрабаванне працоўных». У дакуменце ўтрымліваецца заклік неадкладна тэлефанаваць у міліцыю пры з'яўленні падазроных асобаў.

Работнікам праваахоўных органаў пастаўлена канкрэтная задача: затрымліваць і дастаўляць у пастарунак сяброў ініцыятыўных груп па вылучэнні кандыдатамі ў прэзідэнты краіны Міхаіла Чыгіра і Зянона Пазьняка шляхам збору подпісаў. Такім чынам, міліцыянты ўцягнуты ў неканстытуцыйную палітычную дзейнасць.

У той жа час Гродна пераўтвораны ў пераваланы пункт наркотыкаў. Менавіта тут самае таннае «зелле» - 5-6 грамаў марыхуаны на рэчавым рынку «Паўднёвы» можна купіць усяго за шэсць даляраў. Кур'еры дастаўляюць наркотыкі з Афганістана і паўднёва-усходніх краін СНД. Як гаворыцца, ідэі садружнасці жывуць і перамагаюць.

Больш таго, сёння ў горадзе, магчыма, дзесьці прыцішыўся Сяргей Пухаў, які падазраецца ў здзяйсненні шэрагу забойстваў і рабаўніцтваў кватэр. Яму ўдалося ўцячы падчас сутычкі з супрацоўнікамі крымінальнага вышуку. Другі ўдзельнік банды дае паказанні.

Няўжо гарадзенскія ўлады кінуць усе наяўныя сілы на змаганне са зборшчыкамі подпісаў на радасць крымінальнаму элементу? Дзе гарантыя, што ў такіх умовах у кватэру звышпільнага і адданага прадстаўніка электарату А.Лукашэнкі не ўварвуцца сапраўдныя рабаўнікі і забойцы?

**Сцяпан Ярашчук**

## «Вертыкаль» правіць баль

**Такое ўражанне склалася падчас прэс-канферэнцыі, якая адбылася ў мінулы чацвер у аблвыканкаме. Старшыня абласной тэрытарыяльнай выбарчай камісіі Міхаіл Енка і яе сакратар Мікалай Пацярухін давялі да ведама журналістаў канчатковыя вынікі рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты мясцовых Саветаў.**

91 асоба будзе балатавацца ў абласны Савет. А месцаў усяго 60. Зусім невыпадкова за дэпутацкімі мандатамі дружна рушылі прадстаўнікі наменклатуры, ажно 67 кіраўнікоў featuringрознага ўзроўню. Як тут не ўзгадаць пажаданне Аляксандра Лукашэнкі, выказанае ў сярэдзіне лютага. Кіраўнік дзяржавы заклікаў работнікаў дзяржапарату больш актыўна вылучацца кандыдатамі ў дэпутаты. «Вертыкаль» узяла пад казырок і пачала шукаць адданых рэжыму людзей. Яны знайшліся.

Няма сумнення ў тым, што адпаведныя аддзелы аблвыканкама старанна выканалі сацыяльны заказ. Былым партработнікам, якія цяпер атабарыліся ў высокіх кабінетах выканаўчай улады, такая справа не ў навіну. Толькі зараз рашуча адмовіліся ад шырокага прадстаўніцтва рабочых, сялян і моладзі. Сярод 81 кандыдата ў дэпутаты, якія раней не выбіраліся ў абласны Савет, няма месца юнакам і дзяўчатам маладзей за 30 гадоў. Зарэгістравана толькі 11 жанчын. Усё робіцца надзейна і грунтоўна, каб ніякіх нечаканасцяў.

У слугі народа памкнуліся самі «вертыкальшчыкі». Прычым, вырашылі здабыць мандат без канкурэнтнай барацьбы. Па аднамандатных акругах дазволілі зарэгістраваць сябе ў якасці кандыдатаў кіраўнік адміністрацыі Ленінскага раёна горада Гродна Барыс Казялкоў, начальнік упраўлення аховы здароўя аблвыканкама Роберт Часнойць, старшыня абласнога аб'яднання прафсаюзаў Ірэна Шылконь, дырэктар вытворчага аб'яднання ЖКГ аблвыканкама Юрый Арцём'еў, камандзір вайсковай часці Валерый Фралоў... З 19 акруг у Гродне аднамандатнымі аказалася 11.

Тыя, каму не хапіла безальтэрнатыўных акруг у горадзе, накіраваліся шукаць шчасця ў правінцыю: намеснік старшыні аблвыканкама Віктар Чорны, галоўны санітарны ўрач вобласці Віктар Пышны, начальнік упраўлення ЖКГ аблвыканкама Станіслаў Рысік, начальнік упраўлення культуры аблвыканкама Людміла Кадзевіч, начальнік фінансавага ўпраўлення аблвыканкама Міхаіл Шабан, начальнік праектна-рамонтна-будаўнічага аб'яднання»Гродна абддарбуд» Мар'ян Бутэлевіч, генеральны дырэктар прадпрыемства газавай гаспадаркі «ГродНааблгаз» Аляксей Котаў ...

Вось гэта будзе абласны Савет! Самі сабе заплануюць, самі будуць выконваць, самі правяраць зробленае! Да такой слаўнай кагорты трэба дадаць калгасных старшыняў, якія таксама дружнай грамадой рынуліся ў вірлівую плынь выбараў. А мо лепш было б кожнаму выконваць свае непасрэдныя абавязкі? Справы ў краіне далёка не лепшыя. За дэпутацкімі клопатамі можна забыцца пра ахову здароўя, эканоміку, культуру, дарогі, газ, палеткі з бульбай, буракамі і збожжам. Праўда, пры якой неспадзянцы можна выцягнуць з кішэні дэпутацкі мандат - паспрабуй, старшыня аблвыканкама, зачапі такога! І з работы не звольніш, трэба згода дэпутацкага корпуса. А свой свайго не здасць. Такіх прыкладаў безліч.

Старшыня гарадскога Савета генерал міліцыі ў адстаўцы Фёдар Гудзей у аблсавет не мецiць. Яму б прайсці ў гарадскі, таму і акругу сабе падабраў аднамандатную. Мабыць, даліся ў знакі мінулыя выбары, калі супернікі па выбарчай акрузе пазбавілі Фёдара Паўлавіча магчымасці трапіць у другі тур. На шчасце, выбары не адбыліся. А пакіраваць зноў так хочацца. Мажліва, таму вырашыў балатавацца і былы сакратар абкама ПКБ Эдуард Карыпідзі, цяпер проста інжынер малога прадпрыемства. Намесніку камандзіра па выхаваўчай рабоце вайсковай часці Святаславу Лісу варта было б клапаціцца пра небяспеку набліжэння да горада NATO, а ён туды ж - у дэпутаты...

У гарадскі Савет зарэгістравана 12 прадстаўнікоў ЛДП Беларусі. У большасці, гэта пенсіянеры Узброеных Сіл. Актыўнасці гэтай партыі можна пазайздросціць, бо толькі па Гродна было адмоўлена ў рэгістрацыі яшчэ дзевяці аднадумцам Гайдукевіча. Дастаткова камуністаў з КПБ і ПКБ. Ёсць акругі, дзе ім давядзецца высвятляць адносіны паміж сабой. Вылучылі сваіх кандыдатаў у дэпутаты СС «Белая Русь», партыя народнай згоды, БПСМ. Так і ідуць сценка на сценку - беспартыйныя і партыйцы. Хто каго?

**Уладзімір Кавалёў**

ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

# Лукашэнка і NATO

**На пачатку снежня 1983 года тагачасны амерыканскі прэзідэнт Рональд Рэйган у інтэрв'ю газеце New York Times на пытанне адносна сваёй самай любімай кнігі адказаў, што гэта - «The Third World War: August 1985 - Трэцяя сусветная вайна: жнівень 1985» аўтарства сэра Джона Гакета, брытанскага генерала, былога Галоўнакамандуючага Брытанскай райнскай арміяй і адначасова Галоўнакамандуючага Паўночным участкам NATO.**

Гэтая кніга нарабіла тады такога шуму, што вытрымала некалькі выданняў і была перакладзена амаль на ўсе значныя мовы свету, у тым ліку і на рускую. У былым Савецкім Саюзе надрукавалі хіба што з тузін экзэмпляраў - толькі для членаў Палітбюро ЦК КПСС і стратэгаў Генеральнага штабу. Акрамя гэтых некалькіх чалавек у СССР яе ніхто не чытаў. І была гэтаму прычына.

У кнізе апісваецца ход атамнай вайны паміж NATO і Варшаўскім дагаворам, якая, пачаўшыся ўмяшаннем вялікіх дзяржаваў у міжнацыянальны канфлікт у Югаславіі, становіцца шырокамаштабнай, вынішчальнай і зацяжной у Цэнтральнай Еўропе, але першапачаткова без выкарыстання ядзернай зброі. У выніку Саветы пачынаюць выдыхацца. У адчаі, імкнучыся спыніць ваенныя дзеянні, савецкае камуністычнае кіраўніцтва адважваецца нанесці ядзерны ўдар на англійскі горад Бірмінгем «як драматычнае папярэджанне свету», якое «адначасова...павінна прымусіць Злучаныя Штаты Амерыкі пачаць неадкладныя перамовы аб спыненні агню». Адначасова гэтае збанкрутаванае кіраўніцтва паведамляе прэзідэнту ЗША «...адразу ж пасля старту ракеты па гарачым дроце..., што выстралены толькі адзін снарад» і толькі на Бірмінгем. У гэтым паведамленні падкрэсліваецца, што гэта «вострае папярэджанне саюзу NATO не нанясе Злучаным Штатам ніякай шкоды», бо ні ў якім выпадку гэта не азначае «пачатак абмену ўдарамі міжкантынентальнымі ядзернымі ракетамі». І нават пры адмове весці перамовы будуць працягваца толькі «далейшыя селектыўныя ядзерныя ўдары» (с.390-392 нямецкага выдання гэтай жа кнігі «Welt in Flammen. Der dritte Weltkrieg: Schauplatz Europa. C. Bertelsmann Verlag, Muenchen, 1982).

Адмову камуністычнага кіраўніцтва ад масіўнага ўжывання ядзернай зброі пры пачатку вайны і пры пагрозе паражэння сэр Джон Гакет вуснамі галоўнага камуністычнага ідэолага тлумачыць тым, што «было б бессэнсоўна распаўсюджваць сацыялістычнае панаванне на паўразбураны свет і было б значна лепей дазволіць справам у свеце ісці больш-менш тым самым шляхам, а сацыялізм распаўсюджваць паступова».

Што ж, аднак, адбываецца пасля ядзернага ўдару на Бірмінгем? Неадкладна заходнія саюзнікі бамбардуюць сталіцу Беларусі Менск, а заадно вынішчаюць і ўсю Беларусь. Услед за гэтым надыходзіць крах палітычнай і грамадскай сістэмы СССР, усе саюзныя і аўтаномныя рэспублікі, і нават аўтаномныя вобласці становяцца самастойнымі дзяржавамі, без Беларусі, канешне, бо на яе месцы прасціраецца толькі атамная пустэча. Гэтыя главы кнігі так і называюцца: «Менск сціраецца з твару зямлі», «Савецкі Саюз распадаецца», «Урок паразы» і «Новы свет».

Чаму я так падрабязна пераказваю змест кнігі, якая выйшла 17 гадоў таму? Бо той факт, што Менск і Беларусь сталі першымі ў спісе мэтаў ядзерных удараў на выпадак вайны паміж блокамі, быў вядомы савецкаму камандаванню з самага пачатку - нам, тагачасным салдатам, расказвалі пра гэта палітрукі яшчэ ў 1967 годзе! Не мог пра гэта не ведаць і пазнейшы палітрук Лукашэнка, бо на час яго палітруцтва яшчэ нічога не змянілася ў процістаянні двух наймацнейшых і наймагутнейшых у гісторыі чалавецтва ваенных блокаў.

Небеспадстаўным з'яўляецца дапушчэнне, што паміж галоўнымі акторамі гэтай злавеснай гульні існавала негалоснае паразуменне наконт таго, хто далёка яны могуць пайсці ў сваім ваенным ражы. Ведаў жа добра сэр Джон Гакет, што пісаў!

Можна толькі здагадвацца, чаму першай мішэнню была абраная Беларусь. Заходнія стратэгі ўлічвалі, канешне, яе стратэгічнае становішча ў цэнтры ўсяго сацыялістычнага блоку. Ім вядомы быў таксама і той факт, што Расія заўжды расплочвалася за свае паразы і палітычныя няўдачы за кошт Беларусі, таму параўнальна лёгка ўспрыме і яе знішчэнне. Нас жа, цяперашніх беларусаў, павінен абурыць той факт, што знішчэнне Беларусі было закалькулявана абодвума бакамі, што мы ўсе і нашыя нашчадкі былі закладнікамі палітыкаў, якія кіраваліся не вышэйшай каштоўнасцю чалавечага жыцця, а халоднымі палітычнымі канструктамі.

Пра тое, што Захад у васьмідзесятых гадах маральна і у ваенным плане гатовы быў пайсці на гарачую ваенную канфрантацыю, сведчыць інтэнсіўная падрыхтоўка кіруючай эліты на Захадзе грамадскай думкі, ад удзелу ў якой не цураліся як вышэйшыя царкоўныя іерархі, так і палітыкі ўсіх рангаў. Так, тагачасны прэзідэнт Злучаных Штатаў, ужо згаданы Рональд Рэйган, аўтар вызначэння СССР як «імперыі зла» (у чым ён, канешне, меў рацыю), не прапускаў ніводнай магчымасці, каб не настроіць сваіх слухачоў на блізкі канец свету. Так, 30.10.1983 года ён у размове з сябрамі камітэта «За добрыя адносіны паміж ЗША і Ізраілем» сказаў: «Як Вы ведаеце, я зноў і зноў вяртаюся да Вашых старажытных прарокаў у Старым Запавеце, якія прадвесцілі Армагедон. Пры гэтым я лаўлю сябе на тым, што пытаюся ў сябе, ці не мы тое пакаленне, якому дадзена перажыць тое, што прыйдзе. Я не ведаю, ці Вы апошнім часам узгадвалі якое-небудзь з гэтых прароцтваў. Але паверце мне, яны, я абсалютна ўпэўнены, апісваюць час, у які мы цяпер жывем». А вось маленькі прыклад таго, як гэта было ўспрынята заходнееўрапейскімі сродкамі масавай інфармацыі. Заходнегерманская ўплывовая газета «Кёльнер Штадтанцайгер» ад 31.10.83 пад загалоўкам «Рэйган бачыць набліжэнне Страшнага Суда» інфармуе сваіх чытачоў: «Прэзідэнт ЗША Рональд Рэйган лічыць цалкам магчымым, што свет згодна з «откровениями» Іаана набліжаецца да Страшнага Суда і вырашальнай бітвы Армагедона паміж Дабром і Злом». У такім жа стылі паведамілі пра шчыраванне Рэйгана і ўсе іншыя газеты Заходняй Еўропы. Пра тое, што першымі асуджанымі на смерць ахвярамі Армагедона будуць беларусы, ніхто не прыгадаў.

Толькі гісторыкі ў няясным будучым змогуць, пэўна, вызначыць на якім тонкім валаску вісела жыццё ўсяго беларускага народа. Хай даруюць мне чытачы блюзнерства, але ў параўнанні з тым прыгатаваным для беларусаў рускім камунізмам і заходнім капіталізмам Армагедонам, калі б ён адбыўся, Чарнобыльская катастрофа выглядае як ушчуванне ласкавага Бога грэшнаму народу.

Кніга сэра Джона Гакета, якая так і не дайшла да беларускага чытача, нагадвае нам у чарговы раз, што народ, які не мае ўласнай дзяржавы і ўласнай дзяржаўнай палітыкі, такі ж безабаронны перад лёсам і злой воляй нядобрых суседзяў, як і трава ці маладыя дрэўцы перад статкам раз'юшаных сланоў.

Гісторыя паўтарае старыя сюжэты. У Югаславіі ізноў льецца кроў. Ізноў два канфрантуючыя бакі актыўна ангажуюцца ў гэтыя падзеі. А Беларусь намаганнямі палітычных авантурнікаў далучаецца палітычна да аднаго з гэтых бакоў. У гэтай сувязі трэба выразна падкрэсліць, што плануемая Лукашэнкам і ягонымі супольнікамі анексія Беларусі Расіяй паставіць Беларусь адразу ж у тую сітуацыю, што адлюстраваў у кнізе сэр Джон Гакет. Пры гэтым лёс Беларусі будуць вызначаць не палітыкі, якія перажылі страшную вайну, а індактрынаваныя той жа нялюдскай ідэалогіяй, хворыя на вялікарускі шавінізм, камплексуючыя нацыянальнай шарагавасцю палітыкі тыпу Зюганава, Лужкова, Макашова і г. д. Гэта значыць, што, калі з-за нашай пасіўнасці здзейсніцца гэтыя злавесныя планы, то лёс беларускага народа як першай ахвяры ў будучым Армагедоне прадвызначаны.

Гэтую прадвызначанасць самым бесцырымонным чынам пацвердзіў сам Лукашэнка, публічна пашкадаваўшы ў Маскве з нагоды таго, што з Беларусі выведзена атамная зброя. Гэты прэзідэнт мае зайздроснную здольнасць гаварыць уголас прылюдна тое, што таемна ад народа выпрацоўваецца і ўзгадняецца ў цішыні маскоўскіх і менскіх кабінетаў. Хто мае вушы, хай чуе: на наступны дзень пасля аб'яднання на Беларусь прывязуць тайна ці яўна расійскія ракеты з ядзернымі боегалоўкамі, і Беларусь ізноў стане мішэнню нумар 1 для атамных бамбардаванняў.

Няма сумнення, што Беларусь мае шанец застацца ўбаку ад небяспечных гульняў ядзерных дзяржаваў, пакуль яна нейтральная і калі яе нейтральны без'ядзерны статус прызнаны суседзямі і вядучымі дзяржавамі свету. Для гэтага трэба, па-першае, застацца суверэннай, па-другое, не мець на сваёй тэрыторыі чужых войскаў і базаў. Пры страце суверэнітэту гаварыць пра чужыя войскі і базы на Беларусі няма сэнсу. Пасля анексіі Беларусі Расіяй апошняя набывае не толькі стратэгічна важныя пазіцыі, але і разменную пешку для сваёй небяспечнай палітыкі. А разлічвацца будуць беларусы. Сваімі жыццямі.

Тут трэба падкрэсліць яшчэ адзін аспект гэтай небяспечнай авантуры. Як анексія Беларусі Расіяй, так і захаванне цяперашняга рэжыму ў Беларусі задавальняюць мілітарысцкія колы на Захадзе. Бо ў першым выпадку знішчэнне ў атамнай вайне Беларусі разам з яе насельніцтвам будзе толькі знакам для Расіі, што надышоў час здавацца, г.зн., зніжаецца рызыка атамнага ўдару з боку Расіі па саміх заходніх дзяржавах. З другога боку, у сітуацыі, калі дэмакратычныя сілы заходніх краінаў вядуць няспынную барацьбу супраць мілітарызацыі сваіх краінаў, калі Еўропа стане адзінай і дэмакратычнай, апалагетам NATO немагчыма будзе знайсці аргументы, якія апраўдалі б пашырэнне NATO на Усход. Нават само існаванне NATO страціла б у вачах заходнееўрапейскай грамадскасці ўсялякі сэнс.

Таму бясконцыя гульні заходніх краінаў са сваімі «самымі любімымі» злейшымі ворагамі Садамам Хусейнам, Слабаданам Мілошавічам і Аляксандрам Лукашэнкам забяспечваюць добрую ідэалагічную базу для фармавання ў заходнееўрапейскай грамадскасці ўсведамлення неабходнасці існавання Паўночнаатлантычнага саюза. З гэтай прычыны заходнія амбасадары вернуцца ў Менск і другі, і трэці і чарговы раз, як бы іх ды іхнія краіны не зневажаў Лукашэнка. Вымушаны будуць вярнуцца! А МВФ і дапаможа трохі дасць, каб патрэбны Лукашэнка зусім не знік. І заходні капітал паспрабуе паціхеньку атабарыцца пад крылом рэжыму, нягледзячы на адчайныя пратэсты беларускіх і заходнееўрапейскіх дэмакратаў. А АБСЕ і шматлікія заходнія грамадскія арганізацыі будуць наладжваць у Беларусі бясконцыя перамовы, маніторынгі, семінары і г.д. У гэтым і заключаецца іх роля!

З усяго вышэйзгаданага вынікае толькі адна выснова. Калі мы хочам распараджацца сваім лёсам самі, калі жадаем забяспечыць жыццё нашым нашчадкам, калі мы прагнем пазбегнуць гібелі ў Армагедоне, мы павінны ў першую чаргу вырашыць лёс нашай дзяржавы. Калі мы не адстаім суверэнітэт Беларусі, калі і надалей дазволім вырашаць наш лёс як сваім, так і чужым прайдзісветам і палітычным авантурнікам, то трэба будзе прызнаць, што беларускі народ пазбавіўся асноўнага інстынкту ўсяго жывога на зямлі - інстынкту захавання жыцця, што мы - нацыя самазабойцаў.

Дарэчы, у кнізе сэра Джона Гакета на старонцы 442 пададзены размовы вышэйшых функцыянераў, якія прымалі рашэнне аб бамбардаванні Бірмінгема. Яны выказваюць шкадаванне, што не пайшлі да канца і не знішчылі ўсю планету. Застаецца дадаць, што размовы адбываюцца ў турэмных камерах, бо новае кіраўніцтва Расіі вырашыла пакараць смерцю ўсіх раненейшых вышэйшых функцыянераў, якія прымалі тыя злавесныя рашэнні...

**Міхаіл Патрэба**

# У гонар 81-ых угодкаў БНР

**Прадстаўнікі Беларускага Народнага Фронту падалі заяўку ў Менскі гарвыканкам на правядзенне 28 сакавіка святочных шэсця і мітынгу, прысвечаных 81-й гадавіне ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі.**

Мяркуецца, што ўдзельнікі акцыі збяруцца а 12-й гадзіне на плошчы Якуба Коласа, а потым па праезнай частцы праспекту Ф.Скарыны, вуліц Я.Купалы, Багдановіча, Няміга і праспекта Машэрава пройдуць да Падаца спорту, дзе адбудзецца мітынг. Замоўленая колькасць удзельнікаў акцыі — да 10 тысяч чалавек.

Як паведаміў прэс-сакратар БНФ Валерый Буйвал, цяпер фармуецца аргкамітэт па святкаванні 81-й гадавіны Беларускай Народнай Рэспублікі.

**Дзмітрый Уласаў**

# Мірон дабраўся да Бераставіцы?

**Надзвычайнае здарэнне мясцовага маштабу адбылося ў гарадскім пасёлку Бераставіца. У адну ноч гарадок быў распісаны графіці. Аматары таемнага малявання не абмінулі будынкі школы, райвыканкама, раённага аддзела міліцыі, помнік Леніну.**

Раніцай вока грамадзян цешылі надпісы кшталту «Жыве БПСМ!», «БПСМ - гэта крута!», «Уступайце ў БПСМ!». Правадыру сусветнай рэвалюцыі даверылі патрымаць чырвона-зялёнае палотнішча, добра-такі прапалелае на агні.

Улады адразу кінуліся шукаць мясцовага Мірона, Асноўны «хапун» праводзіўся ў Доме культуры падчас дыскатэкі. Каля 50-ці юнакам учынілі допыт. Некалькіх хлопцаў, якіх органы дазнання падазравалі ў прыналежнасці да Маладога Фронту, пратрымалі ў пастарунку некалькі дзён. Допыты праводзіліся два-тры разы на суткі. Патрабавалі прызнаць сябе вінаватымі ці ўказаць прозвішчы магчымых зламысьнікаў.

Справа засталася нераскрытай з-за адсутнасці доказаў. Хлопцам выпісалі грашовы штраф - па 150 тысяч рублёў за ўтрыманне на казённых харчах. Работнікі камунальнай службы хутка ліквідавалі крамольныя надпісы. Шэрагі БПСМ не павялічыліся.

# «Нёман» прырасце «Балтыкай»

**11 пытанняў парадку дня было разгледжана падчас чарговага пасяджэння ў Гродне савета Еўрарэгіёна «Нёман». Прысутнічалі ўдзельнікі праекта з Польшчы, Літвы і Беларусі. У якасці назіральнікаў - госці з Калініграда ў асобе віцэ-губернатара Тамары Кузяевай.**

Намеснік старшыні Гарадзенскага аблвыканкама Міхаіл Бяляеў паведаміў, што ўжо ёсць пэўныя напрацоўкі ў рэалізацыі міжнароднай праграмы «Рэгіянальнае развіццё і ахова прыроды ў еўрарэгіёне «Нёман», які фінансуецца Еўрапейскім Саюзам. Тэрмін выканання гэтага праекта - амаль два гады, агульны бюджэт складае мільён ЭКЮ.

Неўзабаве прадугледжана адкрыццё ў Гродне літоўскага консульства. А пакуль што, пастаяннымі стануць прыезды ў горад работніка амбасады, якая месціцца ў Менску. Грамадзяне змогуць аператыўна атрымаць візу ў суседнюю краіну.

Госці з польскага горада Сувалкі, літоўскага Марыямпаля, расійскага Калінінграда наведалі Гродна 12 сакавіка. У той дзень Рэспубліка Польшча стала паўнапраўным сябрам NATO. Як гэта адаб'ецца на супрацоўніцтве краін, што ўваходзяць у еўрарэгіён «Нёман»? Калі прыняць да ведама выказванні прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі пра ўзмацненне беларускай ваеннай машыны, умацаванне агульнай мяжы, то падставаў для аптымізму няшмат.

Віцэ-губернатар Калінінградскага краю Тамара Кузяева мяркуе, што ў хуткім часе гэты расійскі анклаў таксама далучыцца да еўрарэгіёна «Нёман». Сёння губерня займае не апошняе месца ў еўрарэгіёне «Балтыка», супрацоўнічаючы з Даніяй, Латвіяй, Літвой, Польшчай і Швецыяй.

# Адам Міцкевіч быў сярод пікетоўшчыкаў




**Саюз палякаў на Беларусі са штаб-кватэрай у Гродне правёў санкцыянаваны ўладамі пікет. Амаль сто чалавек сабралася каля бюста знакамітага Адама Міцкевіча.**

Яшчэ два гады таму правесці гэтую акцыю пратэсту планавалася ў Навагрудку, дзе тамтэйшыя «вертыкальшчыкі» ўпарцецца адкрыццю польскамоўных класаў. Не дазволілі. Адмаўляюць ўлады пікетаваць будынак аблвыканкама ў абласным цэнтры. Толькі цяпер, калі паўстала рэальная пагроза несанкцыянаванага выхаду людзей на вуліцу, пайшлі насустрач.

Старшыня Саюза палякаў на Беларусі Тадэвуш Гавін паведаміў, што пікет адукацыйны. Пра гэта сведчаць лозунгі на польскай і беларускай мовах: «Шаноўныя ўлады, не зачыняйце польскіх класаў у Наваградку - радзіме Адама Міцкевіча!», «А.Міцкевіч было б вельмі прыемна, каб на яго радзіме была польская школа яго імя», «Не будзе моцнай улады, калі будуць парушацца правы нацыянальных меншасцяў!», «Прэзідэнт Лукашэнка, выканайце дадзеныя нам абяцанні!», «Віцэ-прэм'ер Уладзімір Замяталін, намеснік старшыні аблвыканкама Марыя Бірукова, старшыня Навагрдскага райвыканкама Анатоль Ліс душаць польскую мову!»...

Удзел у пікеце прымалі прадстаўнікі польскай нацыянальнай меншасці з Навагрдка, Шчучына, Ляхавіч, а таксама беларусы з дэмакратычных грамадскіх арганізацый. Людзі занепакоены весткамі, што СПБ можа быць не перарэгістраваны. Камусьці вельмі карціць надаць актыўным захадам кіраўніцтва Саюза палякаў па абароне роднай мовы і ўласных гонару і годнасці палітычнае адценне.

А тым часам СПБ, паводле словаў Тадэвуша Гавіна, плануе чарговы шматлюдны пікет у цэнтры горада. Заява пададзена ў гарвыканкам.

**Уладзімір Кавалёў**

